Przesyłka opłacona gotówką 40%.

Цана асобнага нумару 15 гр.

# БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

№ 4 | Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Людвісарская 8—8. | Вільня, 26-га ліпеня 1933 г. | Выходзіць два разы ў месяц. | Год I.

Цана абвестак паводле умовы. | Прыймо інтарэсантаў ў рэдакцыі штодзень ад 9-й да 4-й гадзіны. | Цана падпіскі з дастаўкай поштай: у месяц—25 гр. у 3 » —70 » у ½ года—1.30 у 1 год —2.50

## „Беларуская Газэта“—тры разы ў месяц.

Наша газэта пачала сваё існаваньне ў нязвычайна цяжкіх матэрыяльных варунках. Першыя нумары яе мы змаглі выдаць толькі дзякуючы ахвярнасьці паасобных адзінак з нашага грамадзянства, а перадусім самога рэдактара інж. А. Карповіча. Аднак ужо першыя дні пасьля выхаду ў сьвет "Бел. Газэты" паказалі, што мы трапілі на добрую глебу, глебу, якая становіцца ўжо сяньня падставай існаваньня нашага органу. Шырокія масы беларускага народу адгукнуліся на наш заклік, падтрымалі нашу ініцыятыву, прызнаючы „Белар. Газ.“ за сваю газэту. Сьветлымі і надзвычай вымоўнымі сьведкамі гэтага зьяўляюцца ўсе тыя дзесяткі і сотні лістоў і пачтовак, у якіх наш сярмяжны люд вітае сваю родную газэту, прысылаючы масава падпісную плату і даючы гэтым зразумець наколькі высокая ступень сьведамасьці і ахвярнасьці разьвіта ў гушчах нашага працоўнага народу.

Але рэдкасьць выхаду нашае газэты кожнаму ляжала на сэрцы. Кожын адчуваў, што яна мусіць выходзіць часьцей, каб хутчэй даносіць да сялянскага кутка вестку і слова праўды. Мы амаль у кожным лісьце, у кожным пачтовым пераказе знаходзім просьбу аб тым, каб „Бел. Газэта“ выходзіла прынамсі 4 разы ў месяц.

Сяньня, ідучы на спатканьне сялянска-работніцкай гушчы і маючы яе матэрыяльнае і духовае падтрыманьне, мы пераходзім да выпуску нашае газэты **тры разы ў месяц.** Рашаемся на гэты крок з моцным пераканаңьнем, што ўсё шчырае беларускае грамадзянства спаткае яго з гарачай сымпатыяй і захопленьнем, распачаўшы **зараз-жа** энэргічную акцыю па зьбіраньні падпіскі і новых падпішчыкаў. «Беларуская Газэта» —«тры разы ў месяц!»— вось лёзунг, які мусіць загучэць па ўсей нашай краіне. Навокала яго трэба згрупаваць найшырэйшыя пласты сялян і рабочых. Трэба давясьці справу да таго, каб »Бел. Газэта« мела тысячы і дзесяткі тысяч падпішчыкаў, але **ніводнага дармовага.** Усе па грошу — і «Бел. Газэта» не толькі жыве, але і разьвіваецца. Далейшае разьвіцьцё нашага органу залежыць і будзе залежаць ад таго, ці хоча гэтага народ, ці не. Супольную справу давайце рабіць разам. За яе ў першую чаргу павінны ўзяцца нашы маладыя інтэлігенты і поўінтэлігенты, усе тыя, каму залежыць, каб мець **сваю газэту.**

Безадкладна да працы! Мы чакаем падтрыманьня.

Міхась Явар.

### Паклон чалавечаму страданьню.

Не прад бажніцамі, дзе сьветлыя праменьні
Агнёў бязьлічных тых гарэць і зіхацець,
Ня там, браты, о не! — я кленчу на калені
Ня там, дзе аўтары у золаце блішчаць. —
Ня там, дзе бліск багацьця вабіць многіх вока,
Ня там, дзе золата і срэбра чуцен звон —
Я чалавечаму ўсяму страданьню, мукам,
Крывавым сьлёзам іх сягоньня шлю паклон!

Туды, да хаткаў тых і шэранькіх, і цёмных,
Туды, адкуль ляцiць і крык, і плач, і стогн;
Жабрацтва дзе й нуда, да тых вялікіх бедных,
Да тых пакрыўджаных я шлю гэты паклон!

Да тых, што зямлю матку потам паліваюць,
Што кормяць хлебам сьвет ўжо шмат мільёнаў дзён,
А самі часта так бяз хлеба галадаюць,
З якіх сьмяюцца ўсе,—да тых я шлю паклон!

Да тых, што пры станках, да чорных рук мазольных,
Багацьце што куюць, ўсе цуды новых дзён,
Да твараў жоўтых тых, да вуснаў іх бязкроўных,
Сямье вялікай той!—я сяньня шлю паклон!

Да ўсіх, якія век працуюць і страдаюць,
Якім нясе спакой магільны вечны сон...
Якія бяз пары сьвет белы пакідаюць,
Да мучаньнікаў тых, я шлю гэты паклон!

Я мучаньнікам тым, якім ў страданьнях вечных
За волю мілую пяе кайданаў звон...
Я скатаваным усім... я ценям іх — магілам.
Касьцям струхлеўшым іх—я шлю гэты паклон!!!

14 IV. 32 г.

## Падымаюць галаву...

... „Ня мала ёсьць правадыроў,
Якія любяць люд працоўны
За тое толькі, бязумоўна,
Што любяць яго кроў“.

*Крапіва.*

Загаманілі, застагналі, заенчылі. Заварушыліся, як чэрві ў непагоду. Паднялі нябывалы гармідар навокала кепскае долі Беларускага Народу. Паліліся рэкі кракадзілавых сьлёз з вачэй „народных правадыроў“. Адна кампанія плача сабе, а другая галосіць па-своему. Усе забілі трывогу. Шукаюць ратунку.

Падымае галаву і жывы нябошчык — Беларускі Нацыянальны Камітэт, узначалены такімі прыяцелямі нашага народу, як Ярэміч, Багдановіч, Пазьняк. На сваім агульным надзвычайным сходзе дня 5-га ліпеня г.г. Бел. Нацыянальны Камітэт прыняў рад шумных рэзалюцыяў, рэзалюцыяў, якія далучаюцца да агульнага хадэцка-санацыйнага хору і якія ў масах беларускага народу маюць стварыць уражаньне, што Бел. Нац. Камітэт зьяўляецца яго нацыянальнай галавой, ёсьць той арганізацыяй, якая вядзе праўдзівую барацьбу за здзейсьненьне нашых народных ідэалаў.

І запраўды. На першы погляд рэзалюцыі гэтыя выглядаюць даволі радыкальна, ад іх нават нясе рэволюцыйным душком. Тут мы знаходзім і дамаганьне зямлі для беззямельных і малазямельных, і барацьбу супроць польскіх і расейскіх абшарнікаў і асаднікаў, і змаганьне з паланізацыяй беларускага насельніцтва. Аднак пры бліжэйшым разглядзе пастулятаў Нацыянальнага Камітэту на нас адразу вее знаёмы смурод беларускай хадэцыі, смурод, які зараз-жа дае зразумець, што акцыя Нацыянальнага Камітэту зьяўляецца другой стараной акцыі хрысьціянскай дэмакрацыі. Тут мы спатыкаем перадусім дамаганьне камітэту „рэалізацыі закону польскай канстытуцыі і міжнародных забавязаньняў“, трэбаваньне праўдзенья зямельнай рэформы, а ў першую чаргу камасацыі сельскай гаспадаркі, беларускіх пропаведзяў у царкве і касьцёле, павароту ксяндзоў-беларусаў на беларускія парафіі і т. д. і т. п. І ў канцы Нац. Камітэт „заклікае ўсё ўсе дамае беларускае грамадзянства і ўсе беларускія арганізацыі стварыць супольны фронт у гэтых дамаганьнях“.

Чым выклікана гэтае раптоўнае ажыўленьне працы Нацыянальнага Камітэту?

Падзеі, што адбываюцца сяньня ў нашай краіне і якія знаходзяць найбольш яскравае выражэньне ў шпаркай перастаноўцы грамадзкіх сіл, у безпераліпынным адыходзе асноўных слаёў беларускага народу з-пад сьцягу Луцкевічаўшчыны і хадэцыі, у пераходзе яго да дзейнай нацыянальна-адраджэнскай працы — змушаюць т. зв. народных правадыроў хапацца за новыя дошкі ратунку сябе і сваіх уплываў. Выступленьне міжнародных Розэнбэргаў і іх пляны стварэньня беларуска - украінскай дзяржавы выклікае у «бацькоў» нашага адраджэньня сьлінкі на губах, змушае іх паднясць галаву і выглядаць для сябе спрагненага «кавалка». Адсюль гэты крык, адсюль гэты стогн, адсюль гэтыя старыя песьні на новы лад. Адсюль той факт, што на арэну актыўнай дзейнальнасьці выступаюць тыя самыя людзі, пад новай, больш шумнай, больш захопліваючай фірмай — Беларускага Нацыянальнага Камітэту. Адсюль больш спрытнае падшываньне іх пад настрой бядніцкае масы, адсюль гэтае завастрэньне радыкальна-рэволюцыйнай фразэолёзіі.

Паглыбленьне на грунце эканамічна-палітычных труднасьцяў усіх балячак нашага заходня-беларускага жыцьця, пачынаючы ад пытаньня роднае школы і асьветы наагул і кончыўшы на зямельным голадзе—вось агульная падкладка зьмены мэлёдыі хадэцка-санацыйных правадыроў, вось дзе аснова іх крыку аб зямлі для беззямельных, аб роднай школе і асьвеце, аб барацьбе з полёнізацыяй, аб поўным самаўрадзе на беларускіх землях і т. д. Сваім крыкам яны стараюцца заглушыць магутны голас мільённага сярмяжнага люду, сваім стогнам і плачам стаўпы Нацыянальнага Камітэту намагаюцца прадставіць сябе, як мучанікаў за справу беларускага народу, каб такім чынам, налажыўшы на сябе каптан правадыроў у адпаведны мамэнт скруціць карк гэтаму-ж народу. Гісторыя папярэдніх гадоў беларускага нацыянальна-вызваленчага руху зьяўляецца найлепшым паказьнікам гэтага. Заможныя слаі кожнага несамастойнага народу ў сваёй канкурэнцыйнай барацьбе з уладаючымі клясамі пануючага народу заўсёды адзываюцца да „нізоў“ толькі таму, што хочуць выкарыстаць іх для сваіх клясавых інтарэсаў, для барацьбы не за інтарэсы тых-жа «нізоў», але выключна за свае ўласныя. Для асягненьня належнага пасьпеху яны паслугоўваюцца самымі радыкальнымі, самымі блізкімі народу фразамі, як бацькаўшчына, родная школа, зямля для беззямельных і малазямельных і т. д.

Выступленьне Бел. Нац. Камітэту ёсьць новай спробай ратаваньня ўплываў хрысьціянскай дэмакрацыі, новым актам, скірованым супроць праўдзівай нацыянальна-адраджэнскай працы. Выступленьне Нац. Камітэту аблічана на ўцягненьне ў свае сеці несьвядомага і маласьвядомага элемэнту, на падняцьце свайго аўторытэту ў гушчах беларускага народу.

Аднак паміма усіх высілкаў, паміма надзвычайнага спрыту народ наш настолькі ўжо празрэў, што, як кажа Крапіва

„Каб сонца засланіць — вушэй асьліных мала“.

**Прыпамінаем нашым паважаным падпішчыкам, што ўсім, хто ня прыслаў падпіснай платы, змушаны будзем спыніць высылку „Беларуск. Газэты“**

*Адміністрацыя.*

# За патрэбы дня.

Надыйшла пара касьбы і сенажаці. Надыйшоў гарачы час, час мужыцкага поту і крыві. Час бесперапыннай працы ад цямна да цямна пад пякучымі праменьнямі бязьлітаснага сонца на кіслым малаце і картопліне. Цяжкія варункі жыцьця на вёсцы. Цэлую весну зацiскаў селянін папругу, чакаючы новага хлеба. Ня было заробкаў, ня было грошай. Лебяда, крапіва, старая бульбіна—вось прадукты, якія сталіся штодзеннай стравай вясковай беднаты, каторая складае аграмадную большасьць насельніцтва Зах. Беларусі. Але старою стала крапіва і лебяда, вышла бульба, скарынкі хлеба даўно ўжо няма на паліцы. Голад цісьне зглелага селяніна. Да абшарніка або багатага мужыка ідзе ён, скідае шапку і просіць: „Паночку, або Яначку, пазыч — адраблю... зараблю аддам“. Літуецца багацей, робіць „ласку“, гаворачы: „Што-ж з табой парадзіш. Як небудзь пагодзімся. Аджынеш пару дзён за ласку, а як намалаціш — аддасі“.

З задаваленьнем і горкім нараканьнем ідзе селянін дахаты, дзе яго чакаюць галодныя або паўгалодныя дзеці і жонка, якія спадзяюцца кавалкам пазычанага хлеба адвясці дух.

...А потым адработак. Гарачая праца ад сонца да сонца выцягвае жылы, якімі зацiскаюцца не свае, а чужыя тоўстыя снапы жыта, пшаніцы, аўса. Крыніцаю ліецца пот да чужых сьвірнаў. За злот або і паўзалатоўкі цэлы дзень селянін і селянка напружваюць свае мускулы, гнуць сьпіну. Нічога ня зробіш — думае бядак. Нас шмат, а працы мала. Голад ня цётка. Трэба хоць колькі, абы зарабіць. Так разважае часта наш селянін, будучы прыціснуты цяжкімі жыцьцёвымі абставінамі. Ён і не заўважае навет, што выхад з гэтага, здавалася-б бязвыхаднага стану, ёсьць. Яго даўно ўжо знайшлі рабочыя ў горадзе, яго знайшлі сяляне нашага братняга украінскага і польскага нзроду, арганізуючыся на абарону сваіх людзкіх правоў, за належныя варункі працы, за вышэйшую заработную плату. Беларускі селянін-сэзоннік, беларускі батрак павінны ўзяць для сябе прыклад і супольнымі сіламі бараніцца перад нялюдзкім вызыскам, як шляхам кепскіх варункаў працы, так і шляхам пазычак натураю.

*Зварачаемся да ўсіх, хто працуе ў абшарнікаў і вясковых багачоў прысылаць нам, хоць у складчыну, весткі аб варунках Вашай працы і платы, аб абходжаньні з Вамі і г. д. Будзем шчыра ўдзячны.* *Рэдакцыя.*

# Нашае жыцьцё.

**Вільня.**

*Падатак у натуры.* Даведваемся з газэт, што падатковыя ўлады маюць распачаць прыём ад сялянства падатковых залегласьцяў у натуры, як збожжа і інш. сельска-гаспадарчыя прадукты. Падатак у натуры будзе аддавацца т. зв. фундушу працы.

*Выйгралі.* Гэтымі днямі закончылася забастоўка рабочых цагельні Буха (каля Вільні), якія атрымалі 25 грашовую падвышку ад кожных 1000 вырабленых цэгел.

*6072 безработных.* Паводле апошніх даных лік безработных у Вільні выносіць 6072 асобы. У параўнаньні з папярэднім тыднем безрабоцьце зьменшылася на 26 асоб.

*Забастоўкі.* Рабочыя, занятыя пры пабудове дарогі Вільня—Кабыльнікі забаставалі. Яны трэбуюць выплаты грошаў за прошлыя месяцы.

*Ліда.* У трох цагельнях каля Ліды рабочыя абвяілі забастоўку, дамагаючыся падвышэньня платы. Перагаворы ў інспэктара працы ні да чаго ні прывялі.

+ 16 кілёмэтраў ад Ліды каля Лідска-Маладэчанскай чыгункі забаставалі 50 рабочых каменяломаў, якія змагаюцца за падвышку платы на 1 злот ад кубічнага мэтра.

*Лідзкі.*

**Беласток.**

*Работніцкія забурэньні.* Пат падае, што дня 10 г. м. у беластоцкім ваяводзтве, на грунце зацяжнай забастоўкі тэкстыльных рабочых выбухлі паважныя забурэньні. Асаблівай вострасьці яны набралі ў Пяшчаніках і Супрасьлі. У гэтым апошнім адбылася сутычка паміж дэмонструючымі рабочымі і паліцыяй. У выніку—2 рабочых забіта і некалькі ранена. Таксама ранена некалькі паліцыянтаў.

### Мы ня хочам вайны!

(Беласток).

Трэба прыпомніць. Трэба прачытаць голыя цыфры і перад нашымі вачыма паўстаўне ўвесь жах вынікаў апошняй сусьветнай вайны. Нядаўна адзін з нямецкіх журналаў „Das Neue Volk“ зьмясьціў надзвычай цікаўную і вымоўную статыстыку сусьветнай вайны. Галоўныя пункты яе зводзяцца да наступнага:

Сусьветная вайна трывала 4 гады, 3 месяцы і 10 дзён. У апошніх днях вайны пад зброяй стаяла 30 мільёнаў людзей. На працягу ўсяе вайны было пакліканa ў войска каля 60 мільёнаў асоб.

Ахвяраю вайны ўпала (разам з тымі, што загінулі) менш-больш 11 мільёнаў людзей, г. зн. штомінуты падала 4 — 5 асоб. (Штодня больш 6 тысяч).

Голад паглынуў у часе сусьветняе вайны каля 7 мільёнаў ахвяр.

Раненых налічваецца каля 20 мільенаў чал.

Кошты гэтае вайны выносілі 18.6 мільярдаў даляраў. Такім чынам забойства аднога чалавека каштавала 15.365 даляраў.

Запраўды жудасныя цыфры.

Мы ня хочам вайны! *К. Бельскі.*

### Да жыцьця дзікуноў.

(Сьвіслач).

Па гаспадарскаму разважаньню здаецца так, калі хто шчыра працуе ў сваёй гаспадарцы, дык яго гаспадарка з дня на дзень павінна пашырацца і ён потым, як быццам павінен жыць добра ў дастатку, бо-ж кожын на гэта працаваў. На справе маем зусім іначай. . Усё ідзе наадварот. Працавалі нашы дзяды, бацькі працавалі і мы аж млеем ад працы і ўсёроўна заціскаем жываты цясьней ад галадухі. Мы не багацеем, а бяднеем з кожным днём і тыднем. Дзякаваць Богу, ужо вярнуліся да жыцьця дзікуноў. Абуваемся ў лыкавыя пасталы, заместа газы палім лучыну, запалкі замяніла крэсіла і губка. Цукер—забыліся які мае смак. Адным словам зрабілі нячуваную эканомію. Праўда, ксёндз Станкевіч нам у сваей „Крыніцы“ прапануе рабіць яе і на далей, прапануюць заціскаць жываты, зьціскаць зубы і маўчаць. Гэта па іхняму навучыцца жыць. Не, мы так ня можам...

Мы хочам ведаць куды дзелася, куды дзяваецца наша праца і тое, што вырабляем. Нашы дзяды і бацькі не маглі гэтага бачыць, бо іх вочы былі зацягнуты туманам абману рознымі „Крыніцамі“. Мы павінны змыць гэты туман з нашых вачэй жывою вадою — добраю кніжкаю, газэтаю, а гэтаю газэтаю ёсьць наша «Беларуская Газэта». Давайце дзяліцца праз яе сваімі думкамі, ісьці наперад адною дарогаю, да аднае мэты.

*Сьвіслацкі.*

### Што нам трэба.

(Сьвіслач).

Надыйшла рабочая пара... Больш чым калісяньня над кожным селянінам і работнікам, як той крук круціцца голад. Многа ёсьць сярод нас, якія пад страхам гэтага слова згодны аддаць свае рукі — працаваць на любых умовах, абы ўгадзіць, абы мець працу. Тыя, хто гэтую працу даюць, сьмяюцца ў вус... Рады, што селянін і работнік варожа глядзіць адзін на аднаго і працуюць ад сонца да сонца за адну залатоўку, а то і менш.

Ня сварка нам патрэбна, а дагутаранасьць і змаганьне за лепшыя ўмовы працы, за падвышэньне заробку.

Гэтага можна дамагчыся калі толькі гуртам, як адзін, возьмемся за справу. *С.*

### Заклікаю!

(В. Міхнавічы, Косаўскага пав.),

Жыхары нашай вёскі штонядзелі, а нават кожын прысьвятак з захапленьнем „рэжуць“ у лото. Цалюткі дзянёк напралёт сядзяць, сохнуць і дымяцца, як тыя сялядцы ў табачным дыме.

*Кастусь Баравы.*

# Падаткі.

Кожын беларус ведае добра, якую частку свайго скромнага даходу змушаны ён аддаць дзяржаве і ўсялякім камунальным і самаўрадавым установам у форме featureнага роду падаткаў. Але ня кожны беларус, нават, часам, і даволі сьведамы, здае сабе справу з таго, колькі ўвесь наш край, г. зн. уся Заходняя Беларусь, плаціць падаткаў, як гэта адбіваецца на яе гаспадарчым палажэньні і агулам на ўсім жыцьці нашага краю.

Вось гэтым пытаньнем маем намер тут заняцца. Вельмі шкадуем, што ня маем да гэтага поўнай магчымасьці, г. зн. не распараджаемся афіцыяльнымі ўрадавымі данымі адносна ўсіх падаткаў, таму мы змушаны задаволіцца разглядам *толькі беспасярэдніх падаткаў.* Аднак гэты, напалавіну поўны, малюнак, усё-ж такі вельмі і вельмі павучальны, а пры нашай убогасьці публіцыстыкі і нават вельмі пажаданы.

### Даходнасьць гаспадаркі Зах. Беларусі.

Падаткі ня вымерываюцца наўгад ці на вока.

За падставу вымеру падаткаў служыць прыблізнае аблічэньне даходаў усіх тых, якія маюць іх плаціць. Аблічаючы даходы кожнага плацельшчыка, мы, дадаўшы іх, атрымаем агульны даход пэўнай катэгорыі (як земляробы, таргоўцы і г. д.), а складаючы і гэта будзем мець даход усей гаспадаркі данага краю, напр. Зах. Беларусі.

Якая-ж даходнасьць гаспадаркі нашага краю?

На пытаньне гэтае даюць адказ аблічэньні Скарбовых Палат, ахопліваючых Віленскае, Наваградзкае, Беластоцкае і Палескае ваяв., г. зн. абшар, у якім (з пэўнымі адлічэньнямі) месьціцца і Зах. Беларусь. Як і ўсякія іншыя даныя, на такім прадмеце,як аблічэньне даходаў яны—зразумела—вельмі нясьцiслыя і прыблізныя. Вынікае гэта, папершае, з таго, што агулам цяжка ў лічбах устанавіць даходы шматлікіх плацельшчыкаў падаткаў. Асабліва адносіцца гэта да земляробаў, дзе амаль зусім не вядзецца ніякага разрахунку. А па-другое, даходы гэтыя будуць у пэўнай меры перабольшаныя з увагі на тое, што скарбовыя ўлады ў гэтым зацікаўлены. Ня гледзячы, аднак, на падобныя нясьцісьласьці, лічбы пададзеныя Скарбовымі Паламі можна браць для разважаньня. бо яны даюць усё-ж такі поўны абраз запраўднасьці *).

Прыступаючы да разгляду даходу з розных галін гаспадаркі З. Б., мы пачнём ад земляробства з увагі на тое, што наш край — гэта край земляробскі і земляробству ў нас належыць адна з першых роляў у гаспадарчым жыцьці.

У статыстыцы даходы земляробства падзелены на 2 катэгорыі: даходы ад гаспадарак да 60 ha і даходы ад гаспадарак вышэй 60 ha. Да першай катэгорыі, як маем права дагадывацца, належаць усе гаспадаркі малазямельных, сярэдніх і багатых сялян, а да другой — усе абшарніцкія маёнткі.

І так, даходы ў гаспадарках (да 60 ha) выносілі:

| | |
|---|---|
| ў 1928 г. — — — — | 65.220.000 зл. |
| „ 1929 г. — — — — | 63.822.000 „ |
| „ 1930 г. — — — — | 39.218.000 „ |
| „ 1931 г. — — — — | 24.523.000 „ |

Таблічка гэтая вельмі павучальная. Яе проста варта завучыць напамяць. Пачынаючы з 1928 г. (а можа раней, даных аднак ня маем), даход з сялянскіх гаспадарак бязупынна падае. З 1929 г., г. зн. ад пачатку крызісу капіталістычнай гаспадаркі спадак гэты набірае гвалтоўнага тэмпа і даходзіць у 1930 годзе амаль да паловы вялічыны з прошлага году, каб у 1931 г. спасьці да амаль 1/3 1928 году. Калі прыняць 1928 г. за 100, дык стан гэты будзе з'ілюстраваны так:

| | |
|---|---|
| 1928 год — — — | 100 |
| 1929 „ — — — | 97,8 |
| 1930 „ — — — | 60,1 |
| 1931 „ — — — | 37,6 |

1932 год ня прынёс палепшаньня сытуацыі беларускай вёскі, ня робіць гэтага і 1933 год. А значыцца даход сялянскіх гаспадарак у далейшым зьмяншаўся, даходзячы часта густа да поў- і галоднага існаваньня. Аб гэтым можна ня толькі пераканацца навочна, пабываўшы на вёсцы, але і даволі было-б сыстэматычнае чытаньне такіх газэт, як «Kurjer Wileński» і «Słowo».

Зьмяншаюцца стала, але ў куды меншай ступені даходы з буйнай абшарніцкай гаспадаркі. Даход з гэтых гаспадарак выносіў:

| | |
|---|---|
| ў 1928 г. — — — — | 47.434.000 зл. |
| „ 1929 г. — — — — | 46.651.000 зл. |
| „ 1930 г. — — — — | 43.237.000 зл. |
| „ 1931 г. — — — — | 29.666.000 зл. |

У паноў абшарнікаў, як-бы гэта яны не крычалі ў сваім «Słowie» няма гвалтоўнага тэмпа, няма руіны, але павольнае абніжэньне даходаў. Калі ўзяць ізноў 1928 г., як мерку, дык спадак гэты выглядае прыблізна так:

| | |
|---|---|
| 1928 год — — — | 100 |
| 1929 год — — — | 98 |
| 1930 год — — — | 91 |
| 1931 год — — — | 63 |

Як бачым, значнае заламаньне маем толькі ў 1931 г. і то яно куды меншае, як у дробных сялянскіх гаспадарках.

Як-бы не выглядала гэта дзіўным, аднак усе іншыя даходовыя пазыцыі паказваюць узрост даходу. І так, даходы ад прамысловасьці і гандлю (тут мы маем магчымасьць даць значна ранейшыя даты) стала йдуць угару:

| | |
|---|---|
| у 1926 г. — — — — | 76.230.000 зл. |
| „ 1927 „ — — — — | 105.585.000 „ |
| „ 1928 „ — — — — | 125.368.000 „ |
| „ 1929 „ — — — — | 149.624.000 „ |
| „ 1930 „ — — — — | 155.339.000 „ |
| „ 1931 „ — — — — | 143.626.000 „ |

*) Усе лічбовыя даныя, калі іначай не зазначана, узяты намі з „Sprawozdania o sytuacji gospodarczej okręgu Izby Przemysłowo-Handlowej w Wilnie за 1929, 1930 і 1931 г. г.

